# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 38 (2284) 17 верасня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).


## РЭПАРТАЖ З «КАМУНАРА»






**Гэтая зямля помніць усё, што на ёй адбывалася. Да вайны — панскія маёнткі і абшары палеткаў, саламяныя стрэхі вясковых хат і вузкія палоскі сялянскіх надзелаў. Пасля вайны — калгасы, у якія большасць мужыкоў ішлі пад страхам вывазу ў Сібір ці іншых рэпрэсій. Тое, што здавалася дзікім і выклікала супраціўленне ў сэрцы і свядомасці селяніна, стала настолькі звыклым, што ён цяпер ужо баіцца новых павеваў — фермерства.**

**Як будуць гаспадарыць тут людзі заўтра, яны не ўяўляюць і, можа, над гэтым мала задумваюцца. Пакуль што тут калгас «Камунар», а гэта значыць, што не змянілася і сама форма гаспадарання. Вакол калгасаў сёння шмат спрэчак: адны за іх татальную ліквідацыю і перадачу зямлі фермерам, іншыя прытрымліваюцца процілеглай думкі. А найбольш памяркоўныя і рахманыя заклікаюць не гарачыцца, бо калгасы пакуль яшчэ кормяць нас, блага-бедна, але кормяць.**

**Як жывуць сёння людзі ў звычайным калгасе, што іх хвалюе, пра што яны рупяцца, — пра гэта тры рэпартажы з «Камунара», што ў Навагрудскім раёне.**

**(«НА ГЭТАЙ ВЕЧНАЙ ЗЯМЛІ». Стар. 3).**

## ДА 1000-ГОДДЗЯ ХРЫШЧЭННЯ БЕЛАЙ РУСІ

# ЯК ПОЛЫМЯ СВЕЧКІ ПЕРАД АЛТАРОМ

**Ёсць падзеі, якія ў момант іх здзяйснення здаюцца нам эпахальнымі, але ўжо праз некалькі год губляюць сваё значэнне, а праз стагоддзе пра іх будуць ведаць толькі вузкія спецыялісты ў пэўнай галіне ведаў. І ёсць падзеі, якія, некалі адбыўшыся, вызначаюць на стагоддзі лёсы цэлых народаў і гісторыю дзяржаў. Тысячу год таму была ахрышчана Белая Русь, і ціхае святло ад запаленай дзесяць стагоддзяў назад у Полацку лампады не толькі не згасла, а ў тысячу разоў узмацнілася, запаліўшы ў адказ полымя ў душах многіх і многіх пакаленняў вернікаў.**

**Гавораць, што выпадковасці і супадзенні—гэта мова, на якой Бог размаўляе са сваімі дзецьмі, а нам трэба толькі навучыцца правільна яе разумець. Ці не дзіўна, што свята благаславення творцам Беларусі мы адзначаем менавіта зараз, калі наша рэспубліка атрымала новае дыханне, набыўшы незалежнасць і суверэнітэт, калі мы звяртаемся да сваіх каранёў, каб адчуць сябе свабоднымі людзьмі, а не паслухмянымі выканаўцамі чужой волі. Выпадковасцей і супадзенняў не бывае...**

**Зусім мала часу засталося да свята беларускай зямлі, і верыцца, што ў гэты дзень званы будуць гучаць не толькі на нашай зямлі, але і ў Нью-Йорку, Таронта, Манчэстэры, у сэрцах усіх праваслаўных беларусаў, куды б ні закінуў іх лёс. Мы абавязкова раскажам пра тое, як адзначалася гэтае свята, а зараз прапануем інтэрв'ю з сакратаром юбілейнай камісіі Беларускай праваслаўнай царквы, рэферэнтам Мінскага епархіяльнага ўпраўлення Генадзем ШЭЙКІНЫМ.**

*— Генадзь Мікалаевіч, што дало Беларусі Хрышчэнне? Як ацаніць гэтую падзею з пазіцый сённяшняга дня?*

— На такое пытанне гісторык дасць адзін адказ, спецыяліст у галіне культуралогіі—другі, філосаф—трэці, і ўсе яны будуць па-свойму мець рацыю. Так, гэта вялікая падзея ў гісторыі Беларусі, так, Хрышчэнне аказала істотны ўплыў на станаўленне дзяржаўнасці і спрыяла ўмацаванню незалежнасці Полацкага княства, але мы лічым, што глыбінны сэнс гэтай падзеі ўсё ж такі ў тым, што ўпершыню на беларускай зямлі праз пастаўленне епіскапа была зацверджана Праваслаўная Царква з Хрыстовымі запаветамі і кананічнымі ўстанаўленнямі. Што датычыцца духоўных вынікаў, то яны відавочныя, мяркуйце самі: першым князем хрысціянскага перыяду быў Ізяслаў. Яго пячатка з надпісам кірыліцай з'яўляецца практычна самым старажытным узорам славянскага пісьма. Уяўляеце—ні адзіні іншы народ ва ўсходнеславянскіх землях не мае помніка пісьменства, які б адносіўся да гэтага перыяду! Будуецца Сафійскі сабор-храм, які не ўступае лепшым у свеце ўзорам архітэктуры. Сярод падзей, якія адбыліся ўслед за Хрышчэннем Беларусі, мы асоба выдзяляем з'яўленне прападобнай Ефрасінні Полацкай. У наш час, на жаль, большую ўвагу звяртаюць на свецкі бок яе дзейнасці, маўляў, была яна перапісчыкам кніг. Так, але ж не толькі за гэта яна была прылічана да ліку святых.

Прападобная Ефрасіння вельмі рана прыняла пастрыг і праславілася самаадданай дзейнасцю ў галіне асветы, міласэрнасці і дабрачыннасці. Па благаславенню полацкага епіскапа Іліі яна заснавала Спаса-Праабражэнскі кляштар, які існуе і зараз. Надзвычай прыгожыя словы знайшоў летапісец для вызначэння дзейнасці святой, сказаўшы, што яна «яко луча солнечная просветила землю Полотскую» (дарэчы, сама яе смерць была незвычайнай: яна памерла ў Іерусаліме ў час свайго паломніцтва).

Яна несла людзям Слова Божае, і вакол яе, як свяцільні, пачалі запальвацца іншыя — з'яўляецца цэлая плеяда людзей, якія развівалі пісьменнасць, адукацыю, неслі людзям веды, перапісвалі кнігі. І такія змены адбываюцца не толькі ў Полацку — звярніцеся да гісторыі Тураўскага княства, якое менавіта ў гэты час перажывае незвычайны духоўны ўзлёт, вяршыняй якога была дзей-

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА

## ДЭВІД СУОРЦ — ПАСОЛ ЗША Ў БЕЛАРУСІ

**9 верасня Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Злучаных Штатаў Амерыкі ў Рэспубліцы Беларусь Дэвід Х. Суорц уручыў вярыцельныя граматы Старшыні беларускага парламента Станіславу Шушкевічу.**

**З 8 сакавіка 1992 года Дэвід Х. Суорц быў часовым паверaным у справах ЗША ў Рэспубліцы Беларусь.**

**Сваю прамову на ўрачыстай цырымоніі пасол сказаў на беларускай мове, падкрэсліўшы свой цвёрды намер садзейнічаць умацаванню дружбы паміж народамі нашых краін.**

**— З'яўленне ў сталіцы Беларусі пасольства Злучаных Штатаў Амерыкі, — падкрэсліў Дэвід Х. Суорц у гутарцы з прадстаўнікамі прэсы, — якое хутка пачынае сваю работу ў поўным аб'ёме, акажа спрыяльнае ўздзеянне на развіццё двухбаковых адносін паміж дзяржавамі. Я шчаслівы, што змагу ў меру сваіх сіл і магчымасцей садзейнічаць актыўнаму супрацоўніцтву нашых народаў. Мая краіна мае намер працягваць дапамагаць Беларусі і іншым незалежным дзяржавам, што ўваходзяць у СНД, у пераадоленні цяперашніх цяжкасцей. Мы гатовы таксама развіваць культурныя, навуковыя сувязі з Беларуссю, аб'яднаць свае намаганні ў вырашэнні такіх важных для ўсяго чалавецтва пытанняў, як нераспаўсюджанне ядзернай зброі, раззбраенне.**



**НА ЗДЫМКУ: пасля ўручэння вярыцельных грамат.**

ЗНОЎ ЗЯМЛЯК З ІЗРАІЛЯ

## І. ШАМІР ЕДЗЕ Ў РУЖАНЫ

9 верасня ў Мінск з двухдзённым візітам прыбыў былы прэм'ер-міністр дзяржавы Ізраіль Іцхак Шамір. Ён нанёс візіт Старшыні Савета Міністраў Беларусі Вячаславу Кебічу, з якім пазнаёміўся ў час знаходжання афіцыяльнай дэлегацыі нашай рэспублікі ў Ізраілі гэтым летам.

Трэба выкарыстаць увесь ваш уплыў на прадпрымальнікаў, каб дзелавыя колы нашых краін сталі, нарэшце, паўней супрацоўнічаць, — такое пажаданне выказаў на сустрэчы з высокім госцем прэм'ер-міністр Беларусі.

Затым былы кіраўнік урада Ізраіля сустрэўся з прадстаўнікамі яўрэйскіх абшчын у Мінску, пабываў у Ізраільскім інфармацыйным цэнтры «Сохнут».

Раніцай 10 верасня ў Іцхака Шаміра адбылася сустрэча з дэпутатамі парламента і гутарка са старшынёй Камісіі па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях Вярхоўнага Савета рэспублікі Пятром Садоўскім. Затым былы прэм'ер-міністр Ізраіля адбыў у гарадскі пасёлак Ружаны, адкуль ён родам, дзе наведаў яўрэйскія могілкі.

ДЗВЕ ПРЫСЯГІ






**Яны адбыліся ў сталіцы Беларусі на адным і тым жа месцы—плошчы Незалежнасці, адну ад другой аддзялялі толькі два дні. 6 верасня, у нядзелю, прымалі ваенную прысягу курсанты мінскіх Вышэйшага ваенна-інжынернага і Вышэйшага ваенна-каманднага вучылішчаў. Ёсць такое адчуванне, што гэтым наша Міністэрства абароны намервалася, калі не перакрэсліць планы Беларускага згуртавання вайскоўцаў, то ва ўсякім разе здорава нашкодзіць. А БЗВ 8 верасня, у аўторак, мелася прывесці да прысягі добраахвотнікаў з ліку кадравых афіцэраў і афіцэраў запасу. Гэта выклікала сапраўдную буру і напал палітычных страсцей у рэспубліцы. Тым больш, што прысяга добраахвотнікаў была толькі часткай, хоць і галоўнай, шырокай акцыі, задуманай як «Свята Беларускага войска».**

**А прымеркавана яна была да 478-й гадавіны перамогі ў 1514 годзе войск князя Астрожскага над войскамі маскоўскіх заваёўнікаў пад Оршай. Міністэрства абароны нават выступіла з Заявай. У звароце да Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь яно расцаніла прывядзенне да прысягі добраахвотнікаў як акцыю, якая «стварае прэцэдэнт падзелу паўнамоцтваў дзяржавы і грамадска-культурных арганізацый у адносінах да ўзброеных сіл» і патрабавала яе палітычнай, дзяржаўнай і прававой ацэнкі з боку Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў рэспублікі.**

**Але нягледзячы на такую канфрантацыю, свята адбылося, у час якога кадравыя афіцэры, рэзервісты і адстаўнікі здзейснілі акт грамадзянскай мужнасці —далі клятву бараніць свой народ, быць вернымі яго сынамі. Прысяга, прынятая імі, не будзе мець юрыдычнай сілы, чаго так баялася наша Міністэрства абароны. Затое якой сілы маральны зарад! Яны былі першымі, за імі пойдуць іншыя — так будзе нараджацца наша нацыянальнае Беларускае войска.**

**І яшчэ адна «дробязь». У час прысягі курсантаў раздаваліся каманды: «Равняйсь!» «Смирно!». На «Свяце Беларускага войска» чулася наша родная мова.**

**НА ЗДЫМКАХ: прымаюць прысягу курсанты; на вернасць свайму народу прысягаюць беларускія афіцэры.**

КАБ БЫЎ ПАРАДАК

## РОТА АСОБАГА ПРЫЗНАЧЭННЯ

Так будзе называцца спецыяльнае падраздзяленне для нясення патрульна-паставой службы ў Мінску. Яна фарміруецца згодна з загадам міністра абароны Беларусі генерал-палкоўніка Паўла Казлоўскага на базе адной з рот 120-й гвардзейскай мотастралковай Рагачоўскай дывізіі.

Рота будзе несці патрульна-паставую службу ў Мінску, удзельнічаць у росшуку і затрыманні дэзерціраў, а таксама асоб, якія ўчынілі воінскія злачынствы. У выпадку неабходнасці — несці ахову важных дзяржаўных аб'ектаў. Дзейнічаць воіны роты будуць у цесным кантакце з міліцыяй, у прыватнасці, сумесна несці патрульную службу, прадухіляць розныя правапарушэнні.

Ва ўсіх абласных цэнтрах фарміруюцца ўзводы асобага прызначэння.

ПА-СУСЕДСКУ

## ЧАРНОБЫЛЬСКІЯ ГРОШЫ

2 мільярды рублёў атрымала Беларусь ад Расіі на ліквідацыю вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Разумеючы асаблівасць узніклай у рэспубліцы сітуацыі, урад Расіі ўжо сёлета выдзеліць на гэтыя мэты яшчэ 5 мільярдаў 141 мільён рублёў.

Цяпер аб'ём асігнаванняў, закладзены ў рэспубліканскім бюджэце на ліквідацыйныя работы, складае 32 мільярды 594 мільёны рублёў. Гэтыя сродкі ідуць на фінансаванне капітальных укладанняў, навуковых работ, дэзактывацыю, даплаты і кампенсацыі тым, хто пражывае на забруджаных тэрыторыях, ахову мацярынства і дзяцінства, аздараўленне пацярпеўшых людзей. Дарэчы, гэта толькі нязначная частка доўгага пераліку, куды накіроўваюцца «запланаваныя» мільярды.

Расія першай падала Беларусі руку дапамогі. Яе прыклад пераняла Малдова, пералічыўшы 26 мільёнаў рублёў. Ведаючы, як няпроста было суседзям выдзеліць сродкі са сваіх збяднелых бюджэтаў, Мінфін Беларусі ўстанавіў пастаянны кантроль за тым, куды ідуць «чарнобыльскія» грошы.

КОЛАСАВА СВЯТА

## У ГОНАР ВЯЛІКАГА ПЕСНЯРА

— Колас — з'ява ў жыцці нашага народа незвычайная, — сказаў на свяце, што адбылося ў гонар 110-й гадавіны з дня нараджэння Вялікага Песняра ў яго родных мясцінах — на Стаўбцоўшчыне, Ніл Гілевіч. — Ён не проста майстар слова, ён — вялікі мысліцель, пісьменнік-педагог, які сімвалізуе мудрасць і вопыт цэлай нацыі. Настаў час па-новаму перачытаць напісанае ім, прычым, не толькі філолагам, але і філосафам, эканамістам, палітыкам. Яго ідэі непадуладныя часу, таму што гэта ідэі самога народа, якому да апошніх сваіх дзён верна і аддана служыў паэт.

На свяце гучалі вершы, усхваляваныя прамовы. Скончылася яно вялікім канцэртам фальклорных калектываў.

ЧЫМ ЛЯЧЫЦЦА

## ТОЛЬКІ ЗА ВАЛЮТУ

Зараз медыцынская прамысловасць рэспублікі выпрабляе толькі каля 100 назваў лекавых прэпаратаў, а ўрачы выкарыстоўваюць у практыцы амаль дзве з палавінай тысячы. Улічваючы той факт, што 70 працэнтаў усіх лекавых прэпаратаў у былым Савецкім Саюзе імпартавалася або выраблялася на імпартнай сыравіне, зараз склалася вельмі цяжкае становішча. Валютных сродкаў амаль няма, аднак у Міністэрстве аховы здароўя Рэспублікі Беларусь вырашаецца пытанне аб выдзяленні 10 працэнтаў валютных накапленняў на лекавае забеспячэнне.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● На плошчу Незалежнасці ў Мінску выйшлі пікеты афіцэраў, іх сем'і, якія туляцца па чужых кутах і не маюць перспектыў на ўласную кватэру. У Беларусі ўжо налічваецца 15 тысяч бяздомных афіцэраў, гэта лічба няспынна павялічваецца.

● У новым навучальным годзе яшчэ 11 школ Беларусі набылі статус гімназій, цяпер іх агулам —45. Да 14 ліцэяў, адчыненых год назад, сёлета дабавіліся яшчэ 2.

● Былы загадчык ідэалагічнага аддзела, сакратар ЦК КПБ Аркадзь Русецкі хацеў уладкавацца на кафедры гісторыі Віцебскага тэхналагічнага інстытута ў якасці загадчыка яе. Але вучоны савет інстытута не надта высока ацаніў інтэлектуальны патэнцыял аўтара доктарскай дысертацыі пра палітыку КПСС у мастацкай культуры. Кандыдатуру новага загадчыка кафедры правалілі.

● У Гродзенскай вобласці сёлета зачыніліся 77 клубаў, 44 бібліятэкі, 4 музычныя школы, многа кінаўстановак на вёсках. Дзяржаве не да культуры, а дабрачынцам не ўтрымаць усё на сваіх плячах.

● Беларускі саюз філатэлістаў атрымаў рэгістрацыйнае пасведчанне ў Міністэрстве юстыцыі рэспублікі. Гэта арганізацыя налічвае сёння каля 4 тысяч сяброў. Усяго ж у нас аматараў збіраць знакі паштовай аплаты ў дзесяткі разоў больш.

## РЭПАРТАЖ З «КАМУНАРА»





# І. НА ГЭТАЙ ВЕЧНАЙ ЗЯМЛІ

З якога боку вам ні прыйшлося б ехаць у калгас «Камунар», на кожнай дарозе абавязкова сустрэнуцца скульптуры, зробленыя з дрэва. Такой колькасці іх не ўбачыш ні ў адной гаспадарцы Навагрудчыны. Скульптуры рабілі народныя майстры з Мінска і прадэманстравалі не толькі вялікае майстэрства, але і надалі кожнай выяве свой сэнс. У адным выпадку скульптура расказвае, што «Камунар» — гаспадарка, якая займаецца жывёлагадоўляй і вырошчвае зерне, у другім—паказвае накірунак размяшчэння фермы ці адміністрацыйных будынкаў, у трэцім—скульптуры апавядаюць пра нейкія гістарычныя падзеі ў той ці іншай вёсцы, у чацвёртым—удала аздабляюць культурна-бытавы будынак.

І толькі ад адной такой выявы ў мяне крышачку зашчымела сэрца. Колькі памятаю (нават і тады, калі адбывалася ўзбуйненне калгаса), цэнтрам аб'яднаных гаспадарак быў «Камунар» з кіраўніцтвам у маёй роднай вёсцы Асташына. А тут адна са скульптур на шашы Навагрудак—Любча паказвала на Ракевічы. Вёска была некалі невялічкай, мо разоў у пяць меншай за Асташына. Цяпер жа яе нельга пазнаць: двухпавярховыя катэджы, сярэдняя школа (хаця яна чамусьці называецца Вераб'евіцкай), магазін, стадыён, сад-яслі, кафэ «Алеся»..

Адным словам, ёсць усё. Не вёска, а гарадскі пасёлак. І, прызнацца, крыўда адразу адышла ад сэрца, бо я зразумеў, што для цэнтральнай сядзібы калгаса лепшага месца выбраць і нельга: роўнядзь зямлі дазваляе будаваць дамы, праўленне гаспадаркі перанесена сюды—у самы цэнтр «Камунара», што дае магчымасць жыхарам навакolля хутка дабірацца да кіраўніцтва, калі ўзнікне патрэба, па асфальтаванай дарозе рэгулярна ходзіць рэйсавы аўтобус з Навагрудка.

Склалася ўражанне, што ў пасёлак за апошнія гады панаехала адусюль людзей.

— Не, — тлумачыць нам намеснік старшыні калгаса Дзмітрый Федаровіч,—ніхто з «пастаронніх» да нас не прыехаў жыць. Але ж і моладзь (што вельмі радуе) не пакідае гэтых мясцін.

А навошта пакідаць? Ад дабра дабра не шукаюць. Кожны забяспечаны працай. Калі ёсць малыя дзеці—вядзі іх у яслі-сад. Прычым, калгасны аўтобус заўжды ездзіць па вёсках і забірае іх, а потым, вечарам, адвозіць малых назад.

У кафэ «Алеся», якое разлічана на 60 месцаў, можна і падсілкавацца, і прыемна правесці вольны час: дыскатэка для моладзі, дабудоўваецца зала, дзе дзеці змогуць паласавацца марожаным і паглядзець мультфільмы.

На калгасным стадыёне займаюцца фізкультурай і спортам. Асабліва радуюць мясцовыя футбалісты, якія лідзіруюць у першынстве Гродзенскай вобласці.

Але за кароткія дні камандзіроўкі мы ўбачылі не толькі гэта. Можа нават, як гэта дасягаецца. Сялянскую працу ні з чым не параўнаеш. Яна і сёння патрабуе нямала сіл, поту.

...На небе ні хмурынкі. Трасёмся ў «газіку» па палявой дарозе, парымся, нібы ў лазні, і марым хутчэй выбрацца на свежае паветра, хаця ў трыццаціпяціградусную спякоту нідзе няма паратунку.

Падумалася: нам лягчэй. На нашым шляху яшчэ рэчкі трапляюцца, а як ім, камбайнерам. Колькі дзён запар у такое гарачае надвор'е, глытаючы пыл, жнуць збажыну.



— Заканчваюць хлопцы жніво, — гаворыць Дзмітрый Федаровіч, які сёння і за шафёра, і за экскурсавода: возіць нас ад поля да поля, ад вёскі да вёскі і знаёміць з гаспадаркай і людзьмі. Паказвае на першы камбайн, што вынырнуў з-за ўзгорка. — Наш лепшы камбайнер Вячаслаў Касцюк. Ён ды яшчэ Канстанцін Гніляковіч намалацілі ўжо больш чым па восемсот тон.

— А колькі на круг сёлета атрымалася? — пытаюся ў намесніка старшыні.

— Цэнтнераў па трыццаць шэсць, —адказвае Дзмітрый Дзмітрыевіч і запрашае нас садзіцца ў «газік», спяшаецца везці на льняное поле. Па дарозе тлумачыць: — Па такому спякотнаму лету нядрэнна, хаця ў мінулыя гады збіралі і больш. Лічыце, што ідзём па ўраджайнасці сярод лідэраў у раёне.

Ля шашы — калгасны двор. На ім завіхаюцца людзі ля элеватара.

— Вось сушым зерне, засыпаем на насенне, здаём дзяржпастаўку. Частку прададзім: на днях прыязджаў старшыня калгаса з Ленінградскай вобласці—у іх усё ад спякоты згарэла. Прасіў прадаць збожжа ці абмяняць на запчасткі для тэхнікі, метал і іншае. Прыйдзецца выручаць расіян.

Ніколі яшчэ так не было, каб да паловы жніўня ў калгасе закончылі жніво. Падумалася: пакуль выбіраць бульбу ці буракі, механізатары адпачнуць. Дык не!

— Не да адпачынку, — пакруціў галавой Дзмітрый Федаровіч, чарговы раз спыняючы легкавушку.

Ля дарогі паказаўся трактар з плугамі.

— Не паспелі ўсё ўбраць, а ўжо рыхтуем поле пад новы ўраджай. Арэ Леанід Рабецкі, — завочна знаёміць нас з маладым трактарыстам намеснік старшыні. — А яго родны брат Сяргей дажынае на камбайне апошні клін. Прыйдзецца камбайнерам дапамагаць суседзям, — паказвае Дзмітрый Дзмітрыевіч у бок калгаса «Прынёманскі».—Іншыя абмалоцяць сабранае на прысядзібных участках у сваёй гаспадарцы. А нехта з камбайнаў перасядзе на трактары і будзе араць поле.

Камунараўцам жнуць і малоцяць на асабістых участках бясплатна. Іх бясплатна забяспечваюць сенам, саломай... Ці не таму тут даўно адмовіліся ад вартаўнікоў? У сябе красці не будзеш. Не толькі, аказваецца, паказаць гаспадарку нам, супрацоўнікам рэдакцыі газеты «Голас Радзімы», вырашыў Дзмітрый Федаровіч. Старшыня калгаса быў у камандзіроўцы, і намесніку трэба было, сачыць за парадкам. Здаралася, некага хваліў, некаму даваў добрую параду, а некаму і пападала ад яго.

Скажам, заўважыў, што дрэнна абмалочаны лён. Адразу стаў пытаць у звеннявой, хто з трактарыстаў апрацоўваў гэты ўчастак, пасля адшукаў вінаватага.

І яшчэ кінулася ў вочы: «хварэюць» людзі за сваю гаспадарку, паважаюць сваю працу, не маўчаць, калі бачаць несправядлівасць. Праўду заўжды выкажуць у вочы, нягледзячы, што гэта будзе і сам кіраўнік калгаса.

— Мы вырасцілі такі лён, — накінуліся льнаводы на полі на намесніка старшыні,—а яго нарыхтоўчыя канторы бяруць нізкім сортам. Куды глядзіць кіраўніцтва калгаса?

— І сапраўды, прэтэнзіі справядлівыя, трэба будзе разабрацца, — згаджаецца Дзмітрый Дзмітрыевіч.

Да гэтых прэтэнзій я бы дадаў наступнае. Механізацыя ў калгасе высокая. Але здзіўляюць яшчэ і «дзедаўскія» метады. Узяць тых жа льнаводаў: падбіраюць лён гачкамі, так працавалі шмат дзесяткаў гадоў назад.

Мы не маглі не наведаць жывёлагадоўчы комплекс «Камунара». Колькі памятаю, колькасць жывёлы павялічвалася з года ў год. Гэты напраман даваў гаспадарцы добры прыбытак. І таму, на першы погляд, дзіўным здалося тлумачэнне намесніка старшыні калгаса Дзмітрыя Федаровіча, што яны хутка адмовяцца ад гадоўлі свіней. Усё тлумачыцца проста: у рэспубліцы склалася цяжкае становішча са здачай іх на мясакамбінаты.

А як жа з буйной рагатай жывёлай?

— Колькасць яе значна ўзрасце,— тлумачыць Дзмітрый Дзмітрыевіч.—І праблему тут павінен вырашыць цэх па перапрацоўцы ялавічыны. Мы закупім абсталяванне для вытворчасці тушонкі, іншых кансерваў.

І намеснік старшыні паказаў нам будынак, дзе будуць стаяць новыя лініі. Як бачым, жыццё паўсюль уносіць свае карэктывы. Прымушае шукаць дадатковыя шляхі атрымання сродкаў.

Адно насцярожвае. Такія цэхі, нам даводзілася чуць, будуць узводзіць і іншыя гаспадаркі раёна і вобласці: хто стане выпускаць тую ж тушонку, а хто—каўбасы. І паўстае натуральнае пытанне: ці не адбудзецца, як кажуць, затаваранне? Хаця чакаць трэба не адзін яшчэ год, пакуль што зменіцца.

Але ў цэлым гаспадарка моцна стаіць на нагах, дужэе.

І яшчэ доўга будзе жыць. Створана на многія гады, бо гэтага хочуць самі людзі.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ: кафэ «Алеся»; у такіх дамах-катэджах жывуць у «Камунары»; шмат гадоў працуе жывёлаводам у калгасе Мікалай НАГУЛЕВІЧ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## 20-я СУСТРЭЧА СУАЙЧЫННІКАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЕРЫКІ

# «БЕЛАРУСЬ НА ШЛЯХУ ДА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ»

Пад такім дэвізам прайшла юбілейная, 20-я сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі. Па традыцыі гэты форум прымеркаваны да пачатку свята — Дня працы, якое адзначаецца ў ЗША ў першы панядзелак верасня. Ініцыятарамі гэтых сустрэч з'яўляюцца Арганізацыя беларускай моладзі, Беларуска-амерыканскае задзіночанне (БАЗА) і аб'яднанне беларусаў у Канадзе. Сёлетняя сустрэча праходзіла адразу ў некалькіх гарадах штата Нью-Джэрсі. У ёй прынялі ўдзел беларускія дыяспары амаль з 10 краін.

Як паведаміла прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч накіраваў удзельнікам сустрэчы віншавальную тэлеграму. У ёй адзначаецца, што абвяшчэнне незалежнасці Беларусі — «ажыццяўленне шматгадовай мары аб вольнай і незалежнай радзіме», што «наша дзяржава стала паўнапраўным членам сусветнага цывілізаванага супольніцтва».

У звароце да суайчыннікаў гаворыцца пра тое, што доўгі час гістарычная радзіма была для іх мачахай, яе не хвалявaў лёс беларусаў, якія рознымі шляхамі апынуліся за мяжой.

Але «няма ў гэтым віны беларускага народа, і Беларусь шчыра ўдзячная вам, дарагія суайчыннікі, што вы не забылі мацярынскай зямлі, што вернасць ёй, яе гісторыі пранеслі праз гады і нягоды» — падкрэсліваецца ў тэлеграме.

«Вольны вецер перамен нясе нашай Айчыне адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці, нацыянальнай культуры, роднай мовы. Але поўнае адраджэнне Беларусі яшчэ наперадзе, для гэтага неабходна многа і напружана працаваць. У гэтай справе мы шчыра спадзяёмся на ваша разуменне, падтрымку і дапамогу. Прыйшоў наш час, і мы, наследнікі Ефрасінні Полацкай, Францыска Скарыны, Кастуся Каліноўскага, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, пацвярджаем: Беларусь жыла, жыве і будзе жыць».

## МАЁЙ ВЯСНЫ СЯБРЫ

# ДА СПАТКАННЯ



Бірута Альфонсаўна з глыбокім хваляваннем расказвала пра сустрэчу і знаёмства амаль праз паўвека з дачкою. Сустрэліся яны як родныя, доўга не маглі нагаварыцца. Гаварылі па-літоўску, малодшая Бірута засвоіла мову сваіх продкаў ад «мамы»-Галі і бабулі, рускую толькі разумее, а гаварыць развучылася. Тры месяцы госця з Беларусі была акружана самаю цёплаю ўвагаю і клопатам родных людзей, але вельмі хутка дала сябе знаць настальгія—цяга да зямлі, да людзей і сяброў, з якімі пражыла амаль усё жыццё. На пытанне, чаму не засталася ў Санта-Моніка, Бірута прызналася: «Як ні добра было са сваімі, а да звычаяў, да нораваў чужой краіны прызвычаіцца не магла: мову не ведаю, наўкол людзі чужыя—ні сяброў, ні знаёмых. А тут, хоць і горка, і цяжка, але ўсе свае: сябры і родны тэатр, а гэта адчувае толькі той, хто вырас у ім».

Радаводны корань Дакальскіх—у Літве, у ціхім, прыгожым, тэатральным Панявежысе. Бацька — віленскі друкар-актывіст камуністычнага падполля, сям'я жыла на яго скупыя заработкі. У 1919 годзе ён памёр ад сухотаў. Галю і Біруту забралі гадаваць цёткі, а маці пайшла на настаўніцкія курсы і атрымала школу ў вёсцы Сурдзядзіс. Галю цётка Ганна аддала вучыцца ў гімназію, Бірута пераходзіла ад радні да радні. Так і кідаліся да 1928 года. Адшукала іх закінутая бежанствам у Маскву маміна сястра Юля і запрасіла асірацелую сям'ю да сябе. Пажылі трохі ў сталіцы, але не прыжыліся. Наркамат асветы накіраваў Антаніну Казіміраўну Дакальскую на Беларусь, у літоўскую школу ў Дубровенскім раёне. Галя і Бірута пайшлі ў школу, вывучалі беларускую і рускую мовы. Галя з маленства старанна малявала вясёлыя і смешныя тварыкі, пацешных чалавечкаў і марыла стаць мастачкаю. Непадалёк, у Віцебску, быў славуты мастацкі тэхнікум. Ён здавён быў вядомы выдатнымі майстрамі — Дабужынскім, Пэнам, Шагалам, Фалькам, Волкавым, Юдовічам, скульптарам Бразерам. Мара Галі збылася: яна стала студэнткай мастацкага тэхнікума, ёй адкрываўся таямнічы свет жывапісу, графікі, скульптуры, радавалі знаходкі і ўдачы, засмучалі творчыя пакуты.

Відаць, атмасфера мастакоўскага Панявежыса падзейнічала і на Біруту. Скончыўшы літоўскую школу з агранамічным ухілам, яна марыла стаць артысткай і паступіла ў Мінскі музычны тэхнікум. Жыла ў інтэрнаце на студэнцкай нішчымніцы і старанна вывучала сальфеджыо, гармонію і вакал.

У 1933 годзе былую падпольшчыцу, дубровенскую настаўніцу Антаніну Казіміраўну Дакальскую арыштавалі за тое, што нарадзілася ў Літве, што выкладае незразумелую мову, і засудзілі на пяць гадоў няволі. Абедзве дачушкі асталіся круглымі сіротамі. Пра такую бяду нікому ж і не прызнаешся. Хвораму, скалечанаму паспагадаюць і дапамогуць, а нават ад знаёмага «ворага народа» адвернуцца, абыдуць і праклянуць.

Але пэўныя служкі ведаюць усё нават раней за пацярпелага. І Бірута вылецела з тэхнікума і інтэрната, хоць «сын за отца не отвечает» (Сталін). Усё ж сяброўкі не спалохаліся: хавалі яе ў інтэрнаце, а на работу ўзялі швачкаю на фабрыку імя Крупскай, далі хлебныя карткі, бо без іх і скарынкі не панюхаеш. Так і кідаліся абедзве дачкі літоўскага падпольшчыка і яго супольніцы Антаніны Дакальскай.

Беспрытульная і агаладалая Бірута знайшла суцяшэнне ў фабрычнай самадзейнасці. Яе заўважылі, і мастацкі кіраўнік толькі што створанага Тэатра рабочай моладзі М. Зораў запрасіў у сваю трупу. Маладая артыстка паспяхова іграла ў спектаклях «Арыстакраты», «Працяг будзе», «Рэйкі гудуць». У 1937 годзе нарадзіла дачку, і назвалі яе, як маму, Бірутаю. Калі ліквідавалі ТРАМ, Дакальскую прынялі ў цяперашні Купалаўскі тэатр.

Маці адбыла свае 5 гадоў. У Мінску жыць не дазволілі. Пасялілася ў Оршы, дачок часам адведвала таемна, парушаючы «пашпартны рэжым».

Так і жылі да страшнага чэрвеня 1941 года. Вайна пашматала, раскідала дружную таленавітую сям'ю, пагнала па свеце шукаць прыстанішча і паратунку. Пацягнуліся гады невядомасці і пакут. Трациліся надзеі адшукаць блізкіх, хоць што дазнацца пра лёсы дарагіх людзей. Толькі пры сустрэчы ў Санта-Моніка Бірута даведалася пра «адысею» сям'і Пашкевічаў. Калі фронт наблізіўся да Беларусі, трэба было неяк ратаваць цяжарную Галю, маленькую Біруту, немаладую Галіну маці, недзе шукаць прыстанку, толькі далей ад вайны. Успомнілі, што ў Каўнасе жыве маміна сястра Ганна. Пад бамбёжкамі, праз вогнішчы спаленых вёсак выправіліся ў дарогу. У Каўнасе з'явілася на свет дачушка Алія. Не паспелі агледзецца, як зашугалі баі і на літоўскай зямлі. З горкага вопыту Антаніна Казіміраўна ведала, што іх чакае, як з'явяцца «асабісты» і «смершаўцы». Логіка ў іх простая: не расстралялі немцы, значыць ты здраднік. У лепшым выпадку ўся сям'я загрыміць у Сібір і страціць дзяцей назаўсёды.

Пад бамбёжкамі праз Балтыку дабраліся ў Нямеччыну, але і там ратунку не было. З апошніх сіл і намаганняў рынуліся шукаць прытулку за акіянам. Апынуліся ў Нью-Йорку ў тым, што было на сабе. Без мовы і сродкаў, без радні і знаёмых напакутаваліся па самую макаўку. І ўсё ж пашэнціла: Галя трапіла на фарфоравую фабрыку распісваць кубачкі і сподкі, Мікола мыў талеркі ў рэстаране, а ў вольныя хвіліны нешта маляваў. Яго заўважыў архітэктар і запрасіў у сваю кантору. З'явіліся зароботкі, сям'я станавілася на ногі. Паступова набылі ўласны дом, падрасталі Рута і Алія, у дом прыйшоў дастатак.

Але раптам (зноў раптам) Мікола Аляксандравіч захварэў на нейкую загадкавую хваробу. Медыкі толькі разводзілі рукамі, не маглі нават паставіць дыягназ, а пакуты станавіліся нясцерпнымі. Галя кінулася ратаваць мужа. Аліі ўдалося ў Каліфорніі, у горадзе Санта-Моніка, знайсці патрэбнага спецыяліста. Ён узяўся лячыць і выратаваў Пашкевіча ад укусу нейкага ядавітага кляшча. Прыйшлося прадаць дом і назаўсёды пераехаць у Санта-Моніка. Там іх сталы прыстанак, а радзіма ўсё ж тут, дзе выраслі самі, з'явіліся на свет дзеці, дзе былі радасці і гора, дзе засталася такая любая зямля, блакітнае і асенняе неба і незабыўная маладосць. Яны жывуць успамінамі і мастацтвам, пішуць карціны, графічныя лісты, пейзажы далёкай і любай сэрцу Беларусі. І дачка Алія прысвяціла сябе мастацтву. Яна — старэйшы праекціроўшчык характараў і касцюмаў славутага «Disney Land».

Не так даўно завочна з Пашкевічамі пазнаёміўся і пасябраваў наш славуты мастак Аляксей Марачкін. Ён атрымаў каляровыя рэпрадукцыі, альбомы і праспекты твораў Дакальскай і Пашкевіча, робіць захады для арганізацыі выстаўкі работ нашых таленавітых землякоў і іх дачкі Аліі Клеч. Чакае выхаду з друку манаграфіі пра творчасць Галіны Дакальскай, у якой будзе 74 каляровыя рэпрадукцыі. Але і па тым, што ўбачыў Марачкін, ён пра Пашкевіча зазначыў: «...перада мною незвычайны, арыгінальны мастак са сваім светаўспрыманнем і светапоглядам. Калі ў Галіны, ягонай жонкі, не без уплыву французскага імпрэсіянізму мажорныя нацюрморты, краявіды і партрэты, то ў Міколы па сваім настроі і глыбіні—творы філасофскага роздуму з нейкім асаблівым пачуццём драматызму...» Чаго-чаго, а драматызму хапіла ім, як усім нам.

Спадзяюся, што намаганнямі Аляксея Марачкіна і мастакоў—яго аднадумцаў карціны нашых славутых землякоў Галіны Дакальскай і Мікалая Пашкевіча прыйдуць на сустрэчу з намі і прынясуць асалоду тым, хто душой дакранецца да іх мастацтва.

Гэта будзе чаканая і радасная сустрэча.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

Заканчэнне. Пачатак у № 37.





**НА ЗДЫМКАХ: Бірута ДАКАЛЬСКАЯ (у цэнтры) з сястрой Галінай і Міколам ПАШКЕВІЧАМ у час гасцявання ў Амерыцы; Галіна ДАКАЛЬСКАЯ; Мікола ПАШКЕВІЧ.**

ДУХОЎНАЕ ЖЫЦЦЁ ПРАВІНЦЫІ

# ЖЛОБІНСКАЯ КАТАЛІЦКАЯ АБШЧЫНА

У 165-тысячным Жлобіне, жыхары якога ў пераважнай большасці належаць да праваслаўнай канфесіі, мясцовая абшчына хрысціян-католікаў доўгі час нікім проста не заўважалася. Навучаныя горкім вопытам сваіх бацькоў, вернікі нават пасля пачатку «перабудовы» не адразу асмеліліся заявіць аб сабе ўслых. І толькі ў пачатку 90-х гадоў перайшлі да адкрытых актыўных дзеянняў.

Больш года спатрэбілася абшчыне, каб зарэгістравацца. Поўнасцю ўладзіць усе фармальнасці ўдалося толькі ў сакавіку 1992 года. Паралельна з гэтай праблемай вырашалася і другое неадкладнае пытанне: дзе праводзіць штонядзельныя набажэнствы? Калі святара ўдалося знайсці адносна хутка, дык з пошукамі памяшкання давялося памучыцца. Нарэшце, даць прытулак вернікам згадзілася адна з прыватных асоб горада, якая дазволіла абшчыне адпраўляць рэлігійныя патрэбы ў сваім доме. Там, па вуліцы Якуба Коласа, 27, і адбывалася богаслужэнне апошнія амаль што два гады.

Праблема пошукаў месца для адпраўлення католікамі сваіх рэлігійных патрэб заслугоўвае асобнай гаворкі. Яшчэ ў самым пачатку нашага стагоддзя католікі Жлобіншчыны вырашылі пабудаваць у горадзе свой касцёл. Будаўніцтва яго вялося выключна за народныя грашовыя ахвяраванні і сіламі саміх вернікаў. Дзякуючы іх упартасці і Божай дапамозе, за некалькі гадоў да пачатку першай сусветнай вайны каталіцкі храм у Жлобіне ўсё-такі з'явіўся. На жаль, далейшы лёс гэтай культавай пабудовы склаўся трагічна. У 1934 годзе яна была гвалтоўна канфіскавана ўладамі і з цягам часу проста закінута. У канцы 80-х аб будынку ўспомнілі, вырашылі правесці рэканструкцыю пад гарадскі гісторыка-краязнаўчы музей. Вернікі папярэдзілі ўлады, што пасля рэгістрацыі сваёй абшчыны яны маюць намер афіцыйна патрабаваць вярнуць ім назад гэтыя «сцены». Так што ўкладваць сюды сродкі з гарадской казны — абвастраць сітуацыю. Але сотні тысяч рублёў усё-такі былі выдзелены для будаўніцтва музея, які ў пачатку 1992-га года і быў адкрыты.

Доўгі час праціўнікі вяртання католікам іх маёмасці не хацелі нават прызнаваць сам факт існавання ў Жлобіне каталіцкай культавай пабудовы. Толькі дзякуючы намаганням ксяндза Яна, які адшукаў неабходныя дакументы ў архівах Варшавы і Санкт-Пецярбурга, удалося даказаць адваротнае. Адзін з гэтых дакументаў сведчыць аб тым, што ўжо ў 1911 годзе ў гэтым храме вёў службу ксёндз Іосіф-Уладзіслаў Сарасек, які падпарадкоўваўся Гомельскаму Дэканату. Больш таго, яшчэ сёння жывыя некаторыя сведкі тых часоў. Так, Сцефаніда Антушэвіч, 1900 года нараджэння, працавала там прыбіральшчыцай. А муж і жонка Зінькевічы нават вянчаліся там у 1928 годзе. Нельга абысці і той факт, што доўгі час пасля закрыцця храма многія жлабінчане, праходзячы побач, хрысціліся на яго: ведалі, што гэта святое месца, месца, дзе асвячоны не толькі каталіцкі храм, а і магілы.

Адчуваючы, што праўда за імі, вернікі працягвалі барацьбу за свой храм і пасля адкрыцця ў ім музея. У Вербную нядзелю, 12 красавіка, уся абшчына (гэта каля трохсот чалавек) на чале з ксяндзом Янам правяла ля сцен музея ў знак пратэсту імшу. Акцыя паўтарылася і ў наступную нядзелю. Вернікі заявілі, што яны будуць збірацца на гэтым месцы кожны тыдзень. Гэта нарэшце прымусіла гарадскія ўлады праявіць большую гібкасць у адносінах да абшчыны, тым больш, што ў канфлікт умяшаліся Гомель і Мінск. На сходзе, які адбыўся ў гарвыканкоме, было знойдзена кампраміснае рашэнне: абшчыне перадалі ў карыстанне памяшканне аднаго з былых магазінаў горада, у сваю чаргу, католікі знялі «блакаду» музея.

Можна па-рознаму тлумачыць гэты кампраміс. Але, напэўна, галоўную ролю тут усё ж адыграла разуменне таго, што далейшае абвастрэнне канфлікту нікому не патрэбна. А па-другое, у любым выпадку трэба ўжо думаць аб будаўніцтве ў Жлобіне новага, больш прасторнага касцёла. Ды хапае іншых праблем.

Сваю ж галоўную ўвагу абшчына зараз засяроджвае на выхаванні дзяцей, каб выраслі яны сапраўднымі вернікамі, працягвалі традыцыі сваіх бацькоў. З гэтай мэтай пры абшчыне адкрыта нядзельная школа. Дзеці, якіх налічваецца каля трыццаці, па прычыне недахопу вольнага часу ў святара займаюцца ў змешанай узроставай групе. Заняткі, у чым аўтару гэтых радкоў давялося ўпэўніцца асабіста, праходзяць захапляюча і выклікаюць у маленькіх слухачоў вялікую цікавасць. Працэс навучання адбываецца ў поўнай згодзе паміж трыма бакамі: ксяндзом, дзецьмі і іх бацькамі. Апошнія нярэдка самі прысутнічаюць на занятках. Выхавальнікі (кс. Яну час ад часу на дапамогу прыязджае з Магілёва манахіня аднаго з каталіцкіх ордэнаў сястра Эстэра) імкнуцца спачатку даць дзецям пачатковыя веды па гісторыі хрысціянства, тлумачаць ім сімвалы веры, разам вывучаюць і спяваюць малітвы. У час заняткаў у роўнай ступені выкарыстоўваюцца беларуская, польская і руская мовы, якімі нашы дзеці па прычыне геаграфічнага становішча сваёй рэспублікі павінны валодаць аднолькава свабодна.

Улічваючы, што Жлобін знаходзіцца ў зоне, якая пацярпела ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, абшчына праяўляе клопат і аб умацаванні здароўя дзяцей. Ужо два гады запар яны кожнае лета ездзяць на адпачынак у Польшчу. Усе расходы, звязаныя з паездкамі, бярэ на сябе Польскі Касцёл.

Наш расказ аб Жлобінскай каталіцкай абшчыне быў бы няпоўным, калі б мы не сказалі некалькі цёплых слоў непасрэдна ў адрас яе старшыні Франі Шаціла. У многім дзякуючы яе намаганням і энергіі, абшчына сёння, як гаворыцца, пачынае распраўляць крылы. Гледзячы на яе, не адразу паверыш, што гэтай жанчыне ўжо семдзесят гадоў. Вера ў Бога і самаадданае служэнне сваім ідэям робяць Франю Іванаўну непадуладнай часу.

**Мікалай ШУКАНАЎ.**

## ДА НАШЫХ СЯБРОЎ І ПРЫХІЛЬНІКАЎ

**Рэдакцыя «Голасу Радзімы» шчыра ўдзячная сваім чытачам, хто застаўся верным газеце, нягледзячы ні на якія фінансавыя праблемы ды іншыя цяжкасці, што спадарожнічалі нам у 1992 годзе.**

**Спадзяёмся, што яны не адмовяцца ад «Голасу Радзімы» і на 1993 год, а можа асабістым прыкладам яшчэ і прыбавяць нам чытачоў, не зважаючы на тое, што кошт падпіскі на газету павялічыўся ў некалькі разоў.**

**Падпісная кампанія пачалася з 10 жніўня.**

**Індэкс «Голасу Радзімы» — 63854, падпісная цана на Беларусі: на месяц — 4 рублі 50 капеек, на тры — 13 рублёў 50 капеек, на 6 — 27 рублёў.**

**Чытачам з іншых дзяржаў СНГ паведамляем: усе неабходныя для падпіскі звесткі вы знойдзеце ў дадатковым каталогу. У выпадку ўзнікнення цяжкасцей, асабліва ў аддаленых ад Бацькаўшчыны рэгіёнах, звяртайцеся ў рэдакцыю. Будзем разам шукаць выйсце. Заставайцеся разам з намі, і калектыў рэдакцыі зробіць усё магчымае, каб апраўдаць ваш давер і права ўвайсці ў ваш дом са сваёй інфармацыяй.**

# ЯК ПОЛЫМЯ СВЕЧКІ ПЕРАД АЛТАРОМ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

насць святога Кірылы Тураўскага. Мне хацелася б звярнуць увагу яшчэ на адну вельмі значную прыкмету, якая характарызуе гэты час: з'яўленне выдатных ва ўсіх адносінах асоб, да якіх з аднолькавай павагай ставяцца і Царква, і грамадства. Такім чынам, можна гаварыць, што менавіта Хрышчэннем быў дадзены надзвычайна моцны імпульс развіццю беларускай культуры, і ва ўсёй гісторыі нашай краіны няма іншага перыяду, калі б духоўнае жыццё грамадства было такім інтэнсіўным і насычаным.

*— Як адбілася на Царкве тое, што ў нашым стагоддзі яна столькі часу была аддзелена не толькі ад дзяржавы, але і ад грамадства?*

— Мне здаецца, што Праваслаўная Царква тым і моцная, што людзі ад яе не адступаюцца і ніколі не адступяцца. І цяжкія часы яна перажыла менавіта дзякуючы падтрымцы хай нешматлікіх, але сапраўдных вернікаў. Але нягледзячы на ўсе выпрабаванні, выжыла і захавала свае традыцыі да нашага часу, калі ўсё больш і больш людзей адчуваюць неабходнасць веры і Слова Божага.

*— Якімі здабыткамі Царквы сёння магло б скарыстацца грамадства?*

— Ведаеце, нас часта абвінавачваюць у кансерватызме, але падумайце, колькі ўсяго адбылося за гэты час: то за Бога, то супраць Бога, то за цара, то супраць цара, то за бальшавікоў, то супраць іх. А ў Царкве, нягледзячы на ўсе ўзрушэнні, якія перажывала грамадства, ідзе жыццё спакойнае і роўнае, як полымя свечкі перад алтаром. І служба ідзе з тымі ж словамі і ў такім жа жыватворным рытме, як і 1 000 год таму. Яна змагла застацца Божым востравам стабільнасці і ўстойлівасці ў нашым нервовым і зменлівым свеце і з гонарам перанесці ўсе выпрабаванні, якія выпадалі на яе долю. Але я ні ў якім разе не хачу заклікаць усіх кідацца «пераймаць вопыт» ці бегчы вучыцца ў Царквы. Гэта будзе яшчэ адна крайнасць. Не, у кожнага з нас свая задача: у палітыкаў — свая, у інтэлігенцыі—свая, і кожны павінен на сваім месцы несці свой крыж адказнасці перад Богам і нашай Бацькаўшчынай.

*— Але чаму б не скарыстаць вопыт? Урокі Царквы сёння дапамаглі б і тым жа палітыкам, і інтэлігенцыі. Асабліва вопыт вернасці сваім ідэалам, пастаянства і павагі да Царкве на працягу стагоддзяў асобы. Дарэчы, што дапамагло захоўваць свае ідэалы?*

— Я думаю, што такое толькі Гасподзь дае. З Божай дапамогай і дзякуючы веры, праваслаўна спаведуемай.

*— Калі ласка, раскажыце, як будзе праходзіць свята.*

— Урачыстасці пачнуцца 24 верасня, калі збяруцца госці і адбудзецца набажэнства перад цудатворным абразом Мінскай Маці Божай у Свята-Духавым кафедральным саборы. А 25 верасня ў Мінску адбудзецца навуковая канферэнцыя, прысвечаная 1000-годдзю Хрышчэння Беларусі. На яе запрошаны беларускія гісторыкі, навукоўцы, літаратары і грамадскія дзеячы. Сваю згоду на ўдзел у канферэнцыі ўжо пацвердзілі прэзідэнт Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь Сушчэня, галоўны рэдактар Беларускай Энцыклапедыі Ткачоў, кіраўнікі некаторых вышэйшых навучальных устаноў Мінска.

*— Ці будуць браць удзел у канферэнцыі госці з-за мяжы?*

— Абавязкова. Мы загадзя разаслалі запрашэнні нашым праваслаўным землякам у Амерыцы, Канадзе, Англіі і іншых краінах, і многія з іх далі сваю згоду на ўдзел у нашым свяце. Так, мы чакаем Васіля Русака, сябра Галоўнай управы Беларуска - амерыканскага задзіночання і адначасова сябра Рады Фронту дапамогі ахвярам Чарнобыля. Рускую царкоўную раду епархіі Паўночнай, Амерыкі будуць рэпрэзентаваць айцец ігумен Грыгорый О'Кіф, настаяцель прыходу святога Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіл (Нью-Йорк), брат-семінарыст Міхаіл Эргет, Канстанцін Мярляк, старшыня царкоўнай управы і сакратар Васіль Шчэцька. Царкву святога Мікалая з Манчэстэра будуць прадстаўляць старшыня царкоўнага камітэта спадар Мікалай Шыш і прасвіцер Міхаіл Іскрыцкі. Прыедзе Мікола Ганько, старшыня згуртавання беларусаў у Канадзе. Каб перадаць настрой, з якім едуць да нас нашы землякі, мне хацелася б працытаваць вам урывак з ліста Канстанціна Мерляка: «На нашу думку, прысутнасць амерыканска - беларускіх прадстаўнікоў будзе пачаткам з'яднання ўсіх беларусаў у адну сям'ю, якая дружна пачне адбудову беларускай дзяржаўнасці з усімі высокай якасці атрыбутамі чалавека-беларуса». Чакаем мы прыбыцця на канферэнцыю і Экзарха Усяленскага Патрыярха ў Еўропе Мітрапаліта Дамаскіна, настаяцеляў падвор'яў Праваслаўных Усходніх Цэркваў: Анціахійскай, Іерусалімскай, Балгарскай. Як бачыце, свята нашай Царквы адзначаецца вельмі шырока.

*— Як будуць разгортвацца святочныя падзеі пасля канферэнцыі?*

— 26 верасня ўсе запрошаныя адправяцца ў Заслаўе, дзе адбудзецца чын асвячэння двухметровага каменнага Крыжа ў гонар Рагнеды і Ізяслава. У час цырымоніі будзе запалена лампада, зробленая спецыяльна для гэтага выпадку. Пасля свята яе перададуць Спаса-Праабражэнскай Заслаўскай царкве, дзе яна будзе захоўвацца як гістарычная рэліквія.

Потым свята перанясецца ў Полацк, дзе 27 верасня дасягне сваёй кульмінацыі: у гэты дзень будуць адслужаны тры літургіі, адбудзецца хрэсны ход у Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры з мошчамі святой Ефрасінні. Дарэчы, многія ведаюць пра знакаміты згублены крыж Святой Ефрасінні, зроблены па яе заказу мастаком-ювелірам Лазарам Богшам. Шасціканцовы гэты святы крыж насіў назву—Узвіжальны, і карысталіся ім толькі раз у год —у дзень Узвіжання Чэснага і Жыватворнага Крыжа Гасподня, і надзіва сімвалічным падаецца супадзенне нашага юбілею з гэтым святам. Менавіта таму крыж Святой Ефрасінні і з'яўляецца сімвалам юбілею. Вы можаце ўбачыць яго на значках і канвертах, прысвечаных гэтай даце.

Як пастарэлая маці склікае да сябе сваіх сталых сыноў, каб паглядзець, якімі яны сталі, чаго дасягнулі, як жывуць, так і наша Царква да гэтага свята збірае праваслаўных беларусаў з усяго свету. І, як для маці, усе яе дзеці аднолькава роўныя і родныя незалежна ад таго, багатыя яны ці бедныя, далёка ці блізка, з павагай і любоўю мы сустрэнем нашых гасцей.

*— Чаго вы чакаеце ад гэтага свята?*

— Я думаю, што яно яшчэ раз дасць магчымасць беларускаму народу адчуць сваю годнасць і духоўную сталасць, дасць новы імпульс развіццю навукі і культуры, станаўленню на Беларусі новага светапарадку, а таксама будзе добрым прыкладам нашым суседзям — народам, якія зараз льюць кроў.

**Гутарку вяла Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# СВЯТА КУПАЛЫ НА ЛАГОЙШЧЫНЕ





**У канцы жніўня на Лагойшчыне адбылося яшчэ адно Купалаўскае свята: у вёсцы Харужанцы адкрыты філіял літаратурнага музея паэта. У гэтыя мясціны, а больш дакладна, у Акопы, дзе жыла яго маці, Янка Купала ўпершыню прыехаў у 1911 годзе і потым рэгулярна наведваў іх на працягу 15 гадоў, пакуль не забраў маці да сябе ў Мінск. У Акопах Янка Купала плённа працаваў. Тут былі напісаны «Паўлінка», «Раскіданае гняздо», «Прымакі», «Бандароўна», «Яна і я», «Магіла льва», «Тутэйшыя» — усяго 70 твораў. У Акопах быў зроблены пераклад на беларускую мову «Слова пра паход Ігаравы».**

**Мала што нагадвае ў Акопах аб знаходжанні ў тутэйшых мясцінах Янкі Купалы. Парослыя травой фундаменты колішніх пабудоў... Дрэвы, што з двух бакоў абступаюць былое селішча... Сімвалічны зруб на месцы, дзе раней і на самай справе знаходзіўся калодзеж.**

**Карта Купалавых мясцін на Лагойшчыне — гэта вёскі і хутары Косіна, Прудзішча, Селішча, Гаяны, Акопы, Карпілаўка, Харужанцы, Малыя Бясяды, Ляўшова, Жукаўка, Міхалішкі... І пра кожны населены пункт ёсць у новым музеі экспанат, згадваюць многія з іх радкі народнага песняра... Тут жа кнігі Я. Купалы ці ўспаміны пра яго сучаснікаў, гісторыка-мемарыяльныя рэчы, творы жывапісу і графікі. Паруліліся музейныя работнікі, каб даць магчымасць наведвальнікам пераканацца, што і сапраўды пясняр быў «узрошчаны над Гайнай»...**

**НА ЗЫМКАХ: Купалава свята на Лагойшчыне; першая экскурсія ў новым музеі.**

**Фота У. КРУКА.**

*НАТАТКІ ТУТЭЙШАГА БЕЛАРУСА*

# ЗАЛЕЖЫЦЬ АД КОЖНАГА

ЛЕДЗЬВЕ не год назад старшыня Беларускага краязнаўчага таварыства Генадзь Каханоўскі выступіў у «Народнай газеце» з артыкулам «Як быць з любоўю да краю?». Аналізуючы план выдавецтва «Полымя» на 1992 год, знакаміты даследчык слушна заўважыў: «Знаёмлюся з тэмпланамі выдавецтваў і думаю: хто тут дапаможа? Хто ўратуе ад пагібелі цэлы славянскі народ? Адно несумненна: павінна спрацоўваць нацыянальная прагама адраджэння Беларусі. Працаваць эфектыўна, узважана, з перспектывай. Хацелася б, каб наш парламент і кіраўніцтва рэспублікі сваёй практычнай дзейнасцю даказалі нарэшце не ўяўную, а рэальную любоў да роднай Беларусі, да бацькоўскага краю, да матчынай мовы».

Але ж да слоў Генадзя Каханоўскага хацелася б дадаць вось што яшчэ: працэс адраджэння знаходзіцца і ў прамой залежнасці ад кожнага з нас. Бо толькі пачуццё годнасці кожнага свядомага беларуса здольна стаць трывалай цаглінай у падмурак будучага абуджэння.

А пра якую свядомасць можна гаварыць, калі беларускі кнігадрук не надта цікавы самім беларусам. Упэўніваюць у гэтай выснове многія факты. Вось нядаўна ў выдавецтве «Беларусь» пабачыла свет кніга гутарак Аляксандра Уліцёнка «Іншадумцы». Чытач мае магчымасць сустрэцца з людзьмі, чые імёны зараз на слыху — з Зянонам Пазьняком і Станіславам Шушкевічам, Сяргеем Навумчыкам і Анатолем Сідарэвічам... Здзіўляе тыраж кнігі — усяго дзесяць тысяч экземпляраў. Як на мой прыватны погляд, то кніга павінна стаць рарытэтам у лічаныя дні.

— Кнігагандаль замовіў усяго паўтары тысячы, — тлумачыць галоўны рэдактар выдавецтва «Беларусь» Аляксандр Лукашук. Астатняе распаўсюджваем самі. Цераз выдавецкую кнігарню. З дапамогай ТБМ імя Ф. Скарыны...

Углядаюся ў тыражы навінак, што запланаваны «Беларуссю» да выдання ў 1992 годзе. След заўважыць, што выдавецтва мяняе свой воблік. Паступова пераходзіць да выдання кнігі беларускай, пазбаўляючыся многіх стэрэатыпаў. Многія з запланаваных выданняў — неабходны здабытак у хатняй бібліятэчцы. Тым болей цяжка сабе ўявіць, што гэтыя кнігі будуць адсутнічаць на рабочым стале краязнаўцаў, настаўнікаў гісторыі.

Вось, да прыкладу, зборнік А. Ненадаўца «Святло таямнічага вогнішча». Аўтар, вучоны-фалькларыст, сабраў пад адной вокладкай старажытныя паданні пра свяшчэнныя дрэвы, камяні, пра жывёл і птушак, пра дамавіка, ваўкалака і г. д. Ці часта кнігадрук выдае нешта падобнае? Вось зараз шмат ідзе спрэчак вакол публікацый Ірыны Масляніцынай, якая таксама збірае і апрацоўвае народныя паданні. Значыць, ёсць пэўная цікаўнасць. А вось тыраж кнігі А. Ненадаўца ўсяго сем тысяч экземпляраў.

Неардынарная постаць у гісторыі Беларусі — Аляксандр Чарвякоў. Пра яго выходзіць кніга «...Я ніколі не быў ворагам». Пад адной вокладкай сабраны яго артыкулы, прамовы, успаміны сучаснікаў. Сёлета, дарэчы, мы адзначылі стогадовы юбілей Чарвякова. То якім жа тады павінен быць тыраж кнігі? Мусіць толькі ў адной Дукоры — на радзіме А. Чарвякова — павінна разысціся не меней як тысяча... Але гэтага не адбылося, на жаль.

Арыгінальнай, адметнай абяцае быць кніга маладога гісторыка Генадзя Сагановіча «Вайна за Беларусь: 1654—1667». Пра вайну паміж Масковіяй і Рэччу Паспалітай аўтар расказвае з дапамогай дыярыушаў сучаснікаў тых падзей, уласных знаходак падчас археалагічных росшукаў. Кніга ілюстравана: тагачасныя гравюры, карты-схемы ваенных дзеянняў... Ізноў жа выдавецтва рызыкнула назваць тыраж — дзесяць тысяч экземпляраў. Замоў ад кнігагандлю літаральна няма.

Можна да хрыпаты асуджаць беларускі кнігагандаль, называць яго нядбайным, несвядомым і г. д. Але ж давайце азірнёмся на саміх сябе. Ці шмат парупіліся мы, прапагандуючы беларускую кнігу? Ці паспяшаліся аформіць папярэдні заказ на выданні, што абяцалі быць цікавымі? Спадзяёмся, што набудзем без папярэдняга заказу? Але час цяпер іншы — плануецца кожны рубель. Ніхто не жадае быць у страце: ні выдавецтва, ні кнігарня.

Ёсць і іншая, таксама выразная прычына бяды... Не наладжана належным чынам рэклама беларускай кнігі. А ёю сёння павінны быць заклапочаны ўсе разам: і выдавецтва, і кнігагандаль, і, безумоўна ж, сам аўтар. Акрамя традыцыйных сродкаў рэкламы — газеты, радыё, тэлебачанне, — трэба больш актыўна выкарыстоўваць свядомы беларускі рух, магчымасці ТБМ імя Ф. Скарыны і яго шматлікіх суполак — як за мяжой Рэспублікі Беларусь, так і ў самой нашай дзяржаве. Хіба ж, да прыкладу, працу Г. Сагановіча «Вайна за Беларусь...» не набудуць беларусы ў Казахстане і ў Маскве, у Якуціі і ў Калінінградзе? Але ж ці шмат хто з іх ведае, што рыхтуецца такая кніга?

Словам, рупіцца трэба ўсім разам, не чакаючы, што паратунак беларускай кнізе (і найперш — гістарычна-краязнаўчай) дасць дзяржава.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

## ПАМЫЛКА НАПАЛЕОНА ОРДЫ

У Нацыянальным музеі Кракава сярод шматлікіх акварэлей мастака-этнографа і гісторыка Напалеона Орды ёсць адна, на якой паказаны Кафедральны касцёл і казённая палата — два старадаўнія збудаванні нашага горада. Аўтар назваў сваю работу «Кафедральная плошча ў Мінску», хаця плошча ў яго час называлася Саборнай. Відаць, Н. Орда ненадоўга спыніўся ў горадзе — толькі каб адлюстраваць некалькі галоўных архітэктурных славутасцей, і не запомніў назвы месца, дзе ён маляваў з натуры.

Мастак дваццаць гадоў падарожнічаў па роднай Беларусі (нарадзіўся ён у палескім сяле Варацэвічы непадалёку ад Іванава ў сям'і небагатага шляхціца), па Літве і Украіне. Бываў ён таксама і ў замежных экспедыцыях. Сотні малюнкаў і акварэлей прысвечаны беларускім архітэктурным і гістарычным помнікам і могуць саслужыць добрую службу для рэстаўратараў, для ўсіх, хто, жадаючы пазнаць родны край, адпраўляецца ў бібліятэку, каб яшчэ раз перагартаць славутыя літаграфічныя «Альбомы пейзажаў» Орды...

**К. СТАЛЯРЧУК.**

## СТАНЦУЕМ, «БЕЛЫ САБАКА»!

**У многіх яшчэ свежыя ўражанні ад прайшоўшага ў Віцебску міжнароднага фестывалю «Славянскі базар», а горад ужо рыхтуецца да прыёму новых гасцей. Імі стануць удзельнікі «Белага сабакі» — міжнароднага свята сучаснага эстраднага танца, які мае адбыцца восенню.**

**Шукаючы цяпер спонсараў, арганізатары адзначаюць, што разам з беларускімі выканаўцамі на фестывалі выступяць прадстаўнікі блізкага і далёкага замежжа. Падарыць нам некалькі прыемных гадзін зможа, мяркуючы па папярэдняй дамоўленасці, вядомая пластычная група «Французскі балет».**



**Гэта фальклорны калектыў калгаса імя Калініна Лунінецкага раёна. Ён выступае перад працаўнікамі сваёй гаспадаркі, якія нават у сёлетні неспрыяльны год вырасцілі добры ўраджай зерня і бульбы.**

**Фота У. МЯЖЭВІЧА.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).





НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 2020.
Падпісана да друку 14.09.1992.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12